Махнач, А. І. Этнаграфічныя экспедыцыі К. Машынскага па Беларусі / А. І. Махнач // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 4 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2009. — С. 301–308.

***А. І. МАХНАЧ***

# ЭТНАГРАФІЧНЫЯ ЭКСПЕДЫЦЫІ К. МАШЫНСКАГА ПА БЕЛАРУСІ

Імя К. Машынскага шырока вядома ў навуковым свеце сярод этнолагаў, гісторыкаў, археолагаў. Для этнолагаў са славянскіх краін ён з’яўляецца аўтарытэтам, аб чым можа сведчыць канферэнцыя, прысвеча-



ная К. Машынскаму ў мінулым годзе ў Кракаве, у якой прымалі ўдзел навукоўцы з Польшчы, Сербіі, Славакіі, Балгарыі, Венгрыі і інш. [7, с. 64]. Пэўным вынікам гэтай канферэнцыі стала выснова, што навуковая дзейнасць К. Машынскага па вывучэнню Беларусі фактычна пакінута без увагі даследчыкаў. Гэты артыкул накіраваны на тое, каб высветліць, якая частка навуковай спадчыны К. Машынскага прысвечана Беларусі, і даць аналіз этнаграфічнаму вывучэнню Беларусі К. Машынскім.

Першая экспедыцыя К. Машынскага на Беларусь адбылася ў 1914 г. Ён рыхтаваўся да яе загадзя. Яшчэ ў 1912 г., працуючы настаўнікам на паўночнай Украіне, ён пачаў занатоўваць этнаграфічныя звесткі пра ўкраінскае Палессе, якія былі надрукаваны ў часопісе «Зямля» на працягу 1913 г. За гэта малады даследчык быў адзначаны ўзнагародай «Польскага краязнаўчага таварыства», якое надрукавала яго нататкі асобнай кнігай [12]. Менавіта праз гэта таварыства К. Машынскі атрымаў дазвол і сродкі на правядзенне этнаграфічнай экспедыцыі на беларускае Палессе. Ён падрыхтаваў праект двухгадовага этнаграфічнага вывучэння Беларусі. Падчас сваіх доследаў ён збіраўся найперш вывучыць матэрыяльную культуру, затым духоўнае, грамадскае і рэлігійнае жыццё жыхароў Палесся. Пад гэтыя мэты К. Машынскі і атрымаў грошы касы імя Мяноўскага.

На жаль, на сёння не захаваліся архівы ні «Польскага краязнаўчага таварыства», ні касы імя Мяноўскага. Яны загінулі падчас Другой сусветнай вайны. Засталіся толькі невялікія рэчы, якія захаваліся выпадкова. У архіве Ягелонскага універсітэта захоўваецца дакумент, які можна паспрабаваць ускосна аднесці да вышэйадзначанай экспедыцыі на Беларусь 1914 г. [6, с. 1—32]. Гэта невялікі сшытак, усяго 32 старонкі, які быў запоўнены звычайным алоўкам, з назвай «Нататкі да этнаграфіі Палесся і Беларусі». Гэта былі нататкі з навуковай літаратуры пра Беларусь. На першай старонцы К. Машынскі пазначыў літаратурныя крыніцы, з якіх ён збіраўся атрымаць, відаць, першыя навуковыя этнаграфічныя звесткі пра Беларусь. Яны яму былі неабходны і для напісання праекта, і да непасрэднага самастойнага выезду на Палессе. Спіс літаратуры, якую прагледзеў этнолаг, дазваляе меркаваць, што гэтыя запісы рабіліся яшчэ ў самым пачатку яго кар’еры даследчыка. Гэта ўсё былі матэрыялы канца XIX ст. Іх аўтарамі з’яўляліся такія вядомыя беларускія і расійскія этнографы, як Н. Харузін, Н. Янчук, Дз. Булгакоўскі, М. Нікіфароўскі, У. Завітневіч, Ю. Крачкоўскі, І. Насовіч. Асаблівую ўвагу К. Машынскі надаў натаванню знакамітай працы «Жывапісная



Расія» А. Кіркора. Акрамя гэтага, можна гаварыць пра тое, што некаторыя палявыя нататкі К. Машынскага з экспедыцыі 1914 г. захаваліся ў тым жа архіве, аднак у адзіных экземплярах. Напрыклад, захоўваецца ліст, які мае дакладную дату 1914 г. і прысвечаны будаўніцтву на Палессі [5, с. 3]. Пра экспедыцыю 1914 г. яшчэ могуць ускосна сведчыць нататкі Я. Клімашэўскай, якая была доўгі час (з 1930 г.) асістэнткай К. Машынскага і добра, магчыма з суразмоў, ведала некаторыя рэчы. Менавіта яна рыхтавала артыкул, прысвечаны К. Машынскаму, у 1951 г. для рэдакцыі «Веды і Жыццё», у якім звярнулася і да 1914 г. і пазначыла, са слоў К. Машынскага, што тыя 6 тыдняў, якія ён правёў на Палессі ў 1914 г., былі вельмі шчаслівыя ў яго жыцці [1, с. 3]. На Палессе малады даследчык выехаў у чэрвені 1914 г. і накіраваўся да маёнтка А. Кіеніевіча Дзераэжевічы над Прыпяццю ў Мазырскім павеце, а потым выехаў да Дзякавіч на возера Князь. Далей ён збіраўся на лодцы накіравацца да вёскі Слаўкавічы на пагранічча Мазырскага і Бабруйскага Палесся, але не паспеў. З пачаткам Першай сусветнай вайны К. Машынскі пад націскам мясцовых жандараў быў вымушаны выехаць з Беларусі. Пад наглядам жандараў ён мог быць таму, што дзед яго А. Машынскі ўдзельнічаў у паўстанні 1863 г. і быў высланы ў Сібір [1, с. 1]. Як сам К. Машынскі піша, значная частка нататнікаў з гэтай экспедыцыі засталася пустая, а фатаграфічныя клішэ амаль не кранутыя [10, с. IV].

Нататкі з экспедыцыі 1914 г. былі падрыхтаваны да друку ў 1918 г., але надрукаваны К. Машынскім толькі ў 1928 г. Справа ў тым, што адно выдавецтва, да якога звярнуўся аўтар у 1918 г., прыпыніла існаванне, а ў другога не хапіла на гэта выданне грошай. Сам К. Машынскі, даючы адзнаку сваёй навуковай дзейнасці, пісаў у 1952 г. у аўтабіяграфіі, што найвялікшымі яго працамі трэба лічыць: этнаграфічную

манаграфію аднаго з найбольш цікавых пад этнаграфічным поглядам краёў Еўропы, — «Усходняга Палесся», і другую працу — гэта трохтомная «Народная культура славян» [2, с. 18]. Фактычна толькі пасля таго, як К. Машынскі апрацаваў беларускія матэрыялы, сабраныя на Палессі, ён адчуў энергію асэнсаваць культуру ўсёй Славяншчыны. Пэўным доказам гэтага можа быць параўнанне структуры «Усходняга Палесся» і «Народнай культуры славян», якія маюць амаль што аднолькавы кантэкст і фактычна адрозніваюцца толькі тэрыторыяй вывучэння — Палессе з аднаго боку і суполка славянскіх краін — з другога.

Палявыя матэрыялы, якія былі сабраны К. Машынскім на Палессі, дазволілі яму падрыхтаваць цікавы навуковы даклад «Вынікі этнаграфічнага даследавання Палесся», які ён агучыў на кангрэсе 1924 г. у Пра-



зе. Пасля гэтага кангрэса К. Машынскі атрымаў прызнанне і стаў сябрам Міжнароднага інстытута антрапалогіі ў Празе [14, с. 307].

Наступны прыезд К. Машынскага на Беларусь адбыўся праз 8 гадоў, у 1922 г., калі ён толькі пачаў працаваць у аддзеле этнаграфіі Інстытута антрапалогіі Варшаўскага навуковага таварыства. Дакладных звестак пра гэты выезд на Беларусь няма. Не захавалася і справаздач таварыства, аднак у архіве Ягелонскага універсітэта ёсць здымак з Лунінца, датаваны 1922 г. На жаль, непазначаны месяц і невядома, што гэта была за экспедыцыя, таму што працаваць у таварыстве ён пачаў толькі ў кастрычніку 1922 г.

Дакладна вядома другая экспедыцыя К. Машынскага па Палессі 1924 г. Гэта была ўжо, магчыма, другая ці трэцяя экспедыцыя К. Машынскага за гэты год. Захаваліся, па-першае, палявыя нататкі і палявы дзённік з гэтай экспедыцыі. Акрамя гэтага, ёсць карта, падрыхтаваная К. Машынскім да справаздачы ў Варшаўскае навуковае таварыства, на якой пазначаны маршруты яго вандровак у 1924 г. Да таго ж захаваўся шэраг фотаздымкаў з гэтага перыяду. Аб тым, што К. Машынскі збіраецца праводзіць этнаграфічныя даследаванні на Беларусі, было надрукавана ў газеце «Варшаўскі веснік» ад 12 ліпеня 1924 г., № 193. Там было адзначана, што ад 1 чэрвеня да другой паловы кастрычніка К Машынскі павінен наведаць некалькі польскіх рэгіёнаў, а таксама Беларусь. Экспедыцыя праводзілася ў восень 1924 г. К. Машынскі наведаў некалькі вялікіх мястэчак Берасцейшчыны, такіх як Лунінец, Драгічын, Спорава і інш. Асноўная ўвага даследчыка была накіравана на вывучэнне і натаванне матэрыяльнай культуры палешукоў. Менавіта працуючы ў аддзеле этнаграфіі Інстытута антрапалогіі Варшаўскага навуковага таварыства, на працягу 1923—1924 гг. К. Машынскі распачаў планавыя і сістэматычныя, першыя ў Польшчы, палявыя даследаванні па матэрыяльнай культуры. Нататкі па матэрыяльнай культуры К. Машынскі рабіў двума спосабамі. Першы тычыўся непасрэдна асабістага наглядання даследчыка, апісання і замалёўкі розных рэчаў, такіх, напрыклад, як прылады працы для апрацоўкі глебы. Другі спосаб тычыўся апытвання мясцовых жыхароў з дапамогай раней распрацаваных «апытальнікаў». Інфарматарамі былі жанчыны і мужчыны сталага ўзросту.

Яшчэ адна вялікая вандроўка на Беларусь у 1926 г. звязана з экспедыцыяй на аўтамабіле «Орбіс», нататкі з якой былі апрацаваны К. Машынскім і выдадзены ў асобнай працы [16, с. 127—171]. Экспедыцыя была арганізавана Л. Савіцкім — прафесарам геаграфіі Ягелонскага універсітэта. Акрамя Л. Савіцкага і К. Машынскага, у экспедыцыі ўдзель-



нічалі С. Валасовіч — глебазнаўца, В. Орміцкі, які вывучаў гаспадарку [6, с. 10]. К. Машынскі яшчэ раней пісаў, што яму было б цікава, напрыклад, паўдзельнічаць у комплекснай экспедыцыі па вывучэнню Палесся, якая б складалася з заатэхніка, этнографа, лінгвіста і мастака-фатографа [9, с. 124]. Што тычыцца мастака-этнографа, то сам К. Машынскі выдатна валодаў і алоўкам і фотаапаратам. Справа ў тым, што падчас этнаграфічных экспедыцый ён толькі часткова карыстаўся фотаапаратам, а вялікую колькасць замалёвак рабіў сам. Гэта былі схематычныя малюнкі рэчаў, пабудоў, адзежы і нават некаторых інфарматараў. Абсалютная большасць з 1138 малюнкаў, якія патрапілі, напрыклад, у першы том «Народнай культуры славян», зроблена ўласна К. Машынскім [10, с. 9]. Аднак справа не толькі ва ўласным таленце, таму што яшчэ да гэтага, у 1910 г., ён навучаўся ў Акадэміі мастацтваў у Кракаве пад кіраўніцтвам вядомага польскага мастака прафесара Ё. Мехофера.

Значную частку навуковай спадчыны К. Машынскага складаюць фотаздымкі этнографа, якія ён рабіў фотаапаратам «Gaumont 4 S» [10, с. 11]. Частка з іх змешчана ў розных артыкулах і манаграфіях аўтара. Вялікая частка фотаздымкаў і негатываў на сённяшні дзень захоўваецца ў архіве Інстытута этналогіі Ягелонскага універсітэта. Частка з гэтых матэрыялаў была надрукавана ў альбоме, які выдалі Г. Рушчык і А. Энгелькінг [18]. Калі казаць пра тое, як даўно пачаў рабіць фотаздымкі К. Машынскі, то дастаткова ўзгадаць, што яшчэ ў сваіх першых артыкулах, якія ён друкаваў у часопісе «Зямля» і прысвечаных апісанню ўкраінскіх вёсак, ужо былі выкарыстаны фотаздымкі з апісаных мясцовасцей, напрыклад з Замосця ў 1912 г. [3, с. 315].

Экспедыцыя «Орбіс» працягвалася 41 дзень. Пачалася 1 жніўня і закончылася 11 верасня 1926 г. Падчас вандроўкі была абследавана вялікая колькасць беларускіх вёсак, акрамя гэтага, часткова шлях экспедыцыі праходзіў праз польскія, літоўскія і ўкраінскія землі. Згодна з картай, якая была складзена Л. Савіцкім да

артыкула, да першага на іх шляху беларускага горада Кобрына экспедыцыя дабралася 5 жніўня, затым яны накіраваліся на ўсход да Пінска, а потым на поўнач, наведаўшы Ружаны, Столін, Навагрудак. 13 жніўня яны былі зусім блізка ад Мінска, у Ракаве, потым наведалі Маладзечна, далей накіраваліся да возера Нарач. Два тыдні спатрэбілася экспедыцыі, каб наведаць паўночна-заходнюю частку сучаснай Беларусі. Асабліва ўдзельнікам спадабалася Браслаўшчына і сам г. Браслаў, дзе ў маёнтку Плятараў «Бельмонты» яны з задавальненнем правялі некалькі дзён [16, с. 12]. Затым неабходнасць



тэхнічнай дапамогі аўтамабілю прывяла іх да Вільні, адкуль 26 жніўня яны рушылі на поўдзень Палесся. Па дарозе яны наведалі Мір, Нясвіж, Клецк, Лунінец. Апошнім беларускім горадам стаў Столін, які яны пакінулі 4 верасня 1926 г. і рушылі на паўночную Украіну [16, с. 24].

Цікавымі з’яўляюцца нататкі К. Машынскага, так як яны фактычна зроблены з вакна аўтамабіля. Спачатку ён імкнуўся рабіць іх падчас руху аўтамабіля, аднак гэта не зусім у яго атрымлівалася, таму што аўтамабіль увесь час «трусіла» і нататкі былі вельмі каравымі. Таму ён быў вымушаны іх уласна перапісаць. Так у яго палявым дзённіку спачатку ідзе трэцяя частка нататкаў, потым першая і другая, пачынаючы са старонкі 125. Звычайна ўдзельнікі экспедыцыі за дзень праязджалі некалькі вёсак і ўвечары спыняліся ў адной з іх на начлег. Падчас руху аўтамабіля К. Машынскі паспяваў зрабіць невялікія запісы фактычна з кожнай вёскі, праз якую яны праязджалі. Але цікава, што ён паспяваў занатаваць. Асноўную ўвагу даследчыка ў той час прыцягвала ўсё тая ж матэрыяльная культура. Сваю ўвагу К. Машынскі паспяваў звярнуць на дахі ў вёсках, праз якія яны праязджалі. Звычайным запісам былі — «вёска такая-та, дах такі-та, тып такі-та», і малюнак схематычны гэтага даху. Акрамя дахаў, ён паспяваў звярнуць увагу на сродкі перамяшчэння мясцовых жыхароў, якія, відаць, траплялiся па дарозе. Акрамя гэтых кароткіх нататкаў, у К. Машынскага быў час зрабіць і больш маштабныя. Падчас прыпынкаў на начлег ці па іншых справах К. Машынскі паспяваў занатаваць і ў асноўным замаляваць вялікую колькасць рэчаў, якія яго цікавілі. Звычайна свае нататкі з новай вёскі К. Машынскі пачынаў з будаўніцтва жылой ці гаспадарчай пабудовы, маляваў яе, абмяраў, занатоўваў у дзённік. Затым яго цікавілі прылады працы для апрацоўкі глебы, сродкі перасоўвання і затым розныя дробязі. Звычайна нататкі маглі тычыцца нейкай асаблівай галіны мясцовай вытворчасці. Напрыклад, у вёсцы Ахрэмаўцы Браслаўскага павета К. Машынскі апісаў і часткова замаляваў працэс вырабу глінянага посуду, апісаў працэс падрыхтоўкі гліны, замаляваў печ. Акрамя гэтага, ён імкнуўся часткова закупіць нейкія цікавыя рэчы. У дзённіку ёсць запісы, напрыклад пра пакупку кошыка [7, с. 16].

Некаторую частку шляху гэтай экспедыцыі К. Машынскі і яго сябры вымушаны былі карыстацца не аўтамабілем, а падводай і нават дзе-нідзе пешкам. Аб гэтым ён нават паведамляе на першай старонцы сваіх нататак. Да таго ж падчас вандроўкі К. Машынскі працягваў працу з апытальнікам па матэрыяльнай культуры. Ён сабраў апытальнікі з 16 населеных пунктаў. Калі звярнуцца да фотаздымкаў К. Машынскага, якія



захаваліся ў архівах, і тых, якія былі надрукаваны, то відаць, што значная частка з іх датуецца 1926 г.

Апошняя этнаграфічная экспедыцыя К. Машынскага на Палессе была ў 1932 г. разам з украінскім этнамузыкаведам Ф. Калесам, ён збіраў матэрыялы па музычнай спадчыне беларусаў-палешукоў. Экспедыцыя адбылася ў верасні 1932 г. на сродкі фонду Народнай культуры ў асобе дырэктара С. Міхальскага, які выдаў 570 злотых на праезд і іншыя расходы. Экспедыцыя цягнулася два тыдня. За гэты час К. Машынскі і яго сябра наведалі некалькі дзесяткаў вёсак у Столінскім і суседніх паветах. Праз тры гады ў часопісе «Люд славянскі» К. Машынскі надрукаў два артыкулы. Першы быў прысвечаны гістарыяграфіі беларускага народнага музыказнаўства ад пачатку XIX ст. і да пачатку 30-х гг. XX ст. Цікава, што ў гэтым артыкуле ёсць спасылкі на савецкія артыкулы, прысвечаныя музыцы. Так К. Машынскі спасылаецца на артыкул Я. Дрэйзіна «Кастрычнік і беларуская музыка», надрукаваны ў часопісе «Узвышша» ў 1927 г. Трэба адзначыць, што пільнай увагі К. Машынскага да этнаграфічных матэрыялаў, якія з’яўляліся як у савецкай Расіі, так і ў савецкай Беларусі, не было. Таму яму ў гэтай працы дапамагала М. Знамероўская-Пруферава, якая «дастала» савецкія артыкулы і бібліяграфічную інфармацыю па тэме яго артыкула [8, с. 60—79; 13, с. 60—79]. Сярод уласных сувязей К. Машынскага з савецкімі этнографамі неабходна прыгадаць яго перапіску і абмен навуковай літаратурай з Д. Зеленіным [15, с. 277—287].

Другі артыкул К. Машынскага быў прысвечаны пэўным вынікам, якіх дасягнула вышэйадзначаная экспедыцыя 1932 г. Сярод іх неабходна прыгадаць каля 220 запісаных тэкстаў песен і 81 мелодыю, запісаную на фанограф. Відаць, гэтым займаўся ўласна К. Машынскі падчас экспедыцыі. Дапамагала К. Машынскаму ў гэтым яго асістэнтка Я. Клімашэўская, якая за ўласныя грошы аплаціла праезд, толькі б, як піша К. Машынскі, пазнаёміцца з Палессем [8, с. В 70]. Перад вайной ім былі падрыхтаваны да друку тэксты палескіх песен, якія ён збіраў разам з Ф. Калесам. На жаль, ён не паспеў іх выдаць і зараз яны знаходзяцца ў архіве Ягелонскага універсітэта.

Такім чынам, неабходна канстатаваць, што на працягу 10—30-х гг. XX ст. вялося актыўнае этнаграфічнае вывучэнне Беларусі К. Машынскім. Асноўная ўвага даследчыка была звернута на вывучэнне Заходняй Беларусі. Разам з тым аўтар актыўна карыстаўся матэрыяламі з уласнай этнаграфічнай экспедыцыі 1914 г. па усходнім Палессі. Матэрыялы, якія цікавілі К. Машынскага, тычыліся ў асноўным матэрыяль-



най культуры беларусаў. Акрамя гэтага, увагу даследчыка ў рознай ступені цікавілі духоўная і сацыяльная культура беларусаў, а таксама іх музычная спадчына. Неабходна падкрэсліць і тое, што К. Машынскі актыўна прыцягваў да вывучэння Беларусі шырокае кола як спецыялістаў-этнолагаў, так і даследчыкаў з сумежных з этналогіяй навук.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Klimaszewska, J.* Zyciorys naukowy K. Moszyńskiego przygotowany w roku 1951 przez J. Klimaszewską dla «Wiedzy i Życia». Arhiwum UJ, teczka DXL-1.
2. *Moszyński, K.* Autobiografia / K. Moszyński. Arhiwum PAN, teczka III-90-59.
3. *Moszyński, K.* Budownictwo ludowe w okolicy Zamosćia / K. Moszyński // Ziemia, R. 3: 1912.
4. *Moszyński, K.* Eyhnogeographische Studien in Ostpolen / K. Moszyński // A jornej through the Eastern Provinces of Poland in the Year 1926. Kraków, 1929.
5. *Moszyński, K.* Materialy terenowe roznego pochdzenia i tematu / K. Moszyński. Arhiwum UJ, teczka DXL-23.
6. *Moszyński, K.* Notatki dî etnografii Polesia i Bialorusi K. Moszyńskiego. Arhiwum UJ, teczka DXL – 19.
7. *Moszyński, K.* Notatnik K. Moszyńskiego z 1926 r. Arhiwum UJ, teczka DXL-30.
8. *Moszyński K.* O badaniach muzyczno-etnograficznych na Polesiu w r.1932 / K. Moszyński // Lud słowiański. T. 3, z. 1. Kraków, 1932. S. B 69-B79.
9. *Moszyński, K.* O kulturze ludowej poludniowo-środkowego Polesia / K. Moszyński // Ziemia. 1925. R. X. № ą 6—7.
10. *Moszyński, K.* Od autora / K. Moszyński // Kultura ludowa slowian. T. 1. Kultura materialna. Warszawa, 1967.
11. *Moszyński, K.* Przedmowa / K. Moszyński // Polesie Wshodnie. Warszawa, 1928. S. 1-VI.
12. *Moszyński, K.* Z Ukrainy / K. Moszyński. Warszawa, 1914.
13. *Moszyński, K.* Stan obecny melografii rdzennej Bialorusi i Polesia / K. Moszyński // Lud Slowianski t.III 1935; Programme general de la session. Arhiwum PAN, teczka I-3-13.
14. *Rieszetow, A.* Korespondencja Kazimierza Moszycskiego z Dymitrem Konstantynowiczem Zieleninem. Z materialow Archiwum Rosyjskiej Akademii Nauk w Sankt Peterburgu / A. Rieszetow, Z. Jasiewicz // Lud. T. 85, 2001.
15. *Sawicki, L.* Espada samochodowa po Kresach Wschodnich / L. Sawicki. Kraków, 1927.
16. *Махнач, А. И.* Конференция «От этнографии славян к культурной антропологии» / А. И. Махнач // Живая старина. 2007. 2(54).
17. Палессе: фотаздымкі з дваццатых і трыццатых гадоў / склад. Г. Рушчык, Г. Энгелькінг. Варшава: Ін-т мастацтва Польскай акад. навук; Кафедра беларус. культуры Ун-та ў Беластоку, 1999.